# ЗАРАБІЛІ

Інспектар П.З.У. з Саколкі Сольнік неахвотна адарваў вочы ад газеты, з якой ён пільна вывучаў апошнія спартыўныя паведамленні.

— Вам чаго?, — з ноткай пакрыўджанасці нахальствам інтарасанта спытаў ён маладога чалавека, які стаяў каля яго пісьмовага стала.

— Я з Шацілаўцаў, называюся Яўген Міцук, і прыходжу ў справе воза, які вы апісалі ў нас за запазычанасць страхавых узносаў, — выдажыў паспешна справу інтарасант.

— Трэба заплаціць, — коратка адрэзаў інспектар.

— Не маем грошай, мы прасілі б, каб разлажыць на раты, або прынамсі крыху пачакаць.

— Нельга, трэба было ўпору плаціць, а не чакаць, каб столькі нарасло.

Хлопец таптаўся на месцы, комкаючы ў руках шапку. Інспектару нельга было не прызнаць справядлівасці. А ўсё ж нямёмка было вяртацца дамоў з нічым і тлумачыцца перад старым бацькам.

— Дык нічога не ўдасца зрабіць? — па хвіліне маўчання адазваўся ён.

Інспектар уважліва прыглядзеўся да хлопца. У яго нясмела ўзнікае рашэнне.

— Чаму ж, сітуацыяў без выхаду не бывае, — больш ветліва адказаў ён.

— Ну дык, памажыце, аддзякуем, — ажывіўся хлапец.

— Можна атрымаць страхоўку, скажам, за пуню.

— Што? падпаліць пуню?

— Дурань, — без цырымоніі адказаў інспектар, — навошта яе паліць, хай сабе сто год стаіць. Справа ў іншым. Вось паслухай, — і ён прыцішаным голасам пачаў выкладаць на вуха свой план.

*

Правяраючы дакументы на выплачаныя страхоўкі, кантралёр затрымаўся над пратаколам, паводле якога выплачана страхоўка Міцуку.

Праўда, ён нічым не розніўся ад іншых пратаколаў, састаўлены правільна і падпісаны двума сведкамі. Кантралёра здзівіла нешта іншае: ён нейк не мог успомніць, каб летам быў пажар у Шацілаўцах. А Шацілаўцы ён добра ведаў і часта даводзілася там быць.

— Не, трэба спраўдзіць, — падумаў ён. Калі ён прыехаў на месца, дык убачыў, што пуня стаіць, як і стаяла. Старэнькая, але стаіць.

— Гэта ў вас згарэла летам пуня? — спытаў ён старога Міцука.

— Нічога ў мяне, дзякуй Богу, не згарэла, — адказаў той здзіўлены.

— Як жа так, вы ж атрымалі страхоўку.

— Чаго вы да мяне прысталі і зубы загаварваеце, — узлаваўся стары.

— Добра, зараз спраўдзім, — і ён пайшоў да суседа Малышкі.

— Вы падпісалі пратакол ліквідацыі шкоды, выкліканай пажарам у Міцука — спытаў інспектар, паказваючы Малышку пратакол.

—Прозвішча маё, але подпіс не мой, — адказаў той, прыглядзеўшыся да подпісу.

— Ды й аб пажары ў Міцкоў я ніколі не чуў, хоць жыву па-суседску.

Падобная да гэтай, адбылася размова і ў Астаповіча.

Следства выявіла, што інспектар Сольнік, у паразуменні з Яўгенам Міцуком, склаў пратакол, з якога вынікала, што ў Міцкоў згарэла пуня і што страты ацэньваюцца на 4 743 зл. Інспектар сам падпісаў гэты пратакол прозвішчамі суседзяў Міцука, Малышкі і Астаповіча. Ён выпісаў таксама даверанасць для Яўгена, каб той, замест бацькі, мог атрымаць грошы. Грашыма яны падзяліліся, пры чым бацька Яўгена нічога аб гэтым не ведаў.

Год і тры месяцы турмы з пазбаўленнем на два гады правоў і аплатамі судовых належнасцей — такі быў прыгавор суда адносна Сольніка.

Яўген таксама атрымаў за сваё. Ён прыгавораны на восем месяцаў турмы.

**САВА**

**Народная творчасць**

### ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ

Чэрэз рэчэньку брыгэ,
Кашулю замачыла,
Сідзела на калодзе
Сушыла на пагодзе.

Сідзела на калодцы,
Моргала на малодцы.
З гаю малодцы, з гаю,
Чорны очэнькі маю.

Чорт цябе бяры з імі.
Давно ты зводзіш імі!
Каб імі не звадзіла —
Даўно б за людзьмі была,

Каб імі не звадзіла —
Даўно б за людзьмі была,
А то ты імі зводзіш —
Той дзеванькаю ходзіш.

Запісалі: **Л. Красоўская** і **З. Буслові́ч** ад **Ніны Семянюк** год 39 в. Белкі, Гайнаўскі пав.

### ЧОРНА КУРАЧКА ЧОРНА

Чорна курачка, чорна
Зліцела на жорна,
Стала сакатаці,
Не дала ночкі спаці.

Мала ночанька, мала,
І то я ні даспала.
Прыспары, Божэ, ночы
На мае сіні очы.
Прыспары дзве гадзінкі
Для маладой дзяўчынкі.

### «РЫБКА»

Марысь мая, Марысь,
Каму рыбку варыш?
Для цябе, Іванку,
Бо ты мой таварыш.

У каго рыжа барада,
Таму рыбкі шкада.
У каго чорны вус,
Таму рыбкі цэлы кус.

**Запісаў Янка Серада ў Новай Волі Беластоцкага павета**

### ПРЫПЕЎКІ

Веець, веець вецер,
Каліну калыша,
А мой мілы чорнабрывы
Да мяне не піша.

Пішы, мілы, мой міленькі,
І не забывайся!
На паненак, на прыгожых
Ты не заглядайся.

Паненкі прыгожы
Самі сабе ў мыслі,
А мы з табой, мой міленькі,
Як у садзе вішні.

**МІКОЛА ПАНФІЛЮК**
**Дубічы - Царкоўныя Гайнаўскі павет**



**Кашалка. Сяргей Крышэнь. Адрынкі, Гайнаўскі пав.**

Жыць засталіся лічаныя гадзіны. Я слабая. Паміраць страшна. Пан Адам, каторы вынес гэтае пісьмо, сёння паведаміў: фронт ля Мінска! Так захацелася пажыць! Часамі мяне апаноўвае псіхалогія страўса. Угаварваю сябе, што не можа таго быць, каб зусім я счэзла з гэтага свету, каб нічога не чула і не бачыла... Я не магу сабе ўявіць смерці, і мне лёгка на гэта сябе ўгаварыць. Ведаю, ты, Янэчак, або мой тата сустрэлі б сваю смерць горда і спакойна, як сапраўдныя мужчыны. За гэту сілу я цябе і любіла... Адно пэўнае: каб цяпер мне хто вярнуў жыццё, я рабіла б зноў тое самае!

Якой я была калісьці наіўнай! Дзеля бацькоў вырашыла стаць Марыляй Верашчакай, і мне здавалася: у гэтым маё найбольшае геройства. Тады я была дзіцём. Мне далі напрамак: зубрэнне, флірт і падрыхтоўка стаць жонкай... І ўсё ж такі ў школе я крыху расла. Але, скончыўшы яе, стала б жонкай самалюбівага маньяка, і прыдурка Любецкага, і мая верхавіна страціла б свой парастак. А дрэва без парастка прымае пачварныя формы. Самай большай навінай за дзень для мяне было б, што муж зламаў ногаць, або што сёння ў магазін прывезлі добрае мяса...

...У цёткі Антосі вазьмі мае фатаграфіі. Ёсць адна, дзе я стаю над Віліяй. Калісьці з табой там праходзілі і ты прасіў пасядзець на камені, а я закапрызнічала. Перад арыштам, быццам ведаючы, я зрабіла сабе там здымак. Пазнаеш яго? Зняла і наша месца, дзе была студня. Туды ўпала бомба.

Я табе, Янэк, удзячная. Калі пазнала цябе, стала мне мала мяшчанскай ветлівасці і набожнасці, нават сталі вузкімі нацыянальныя рамкі, у якія нас заганялі змалку. Захацелася большага свету,



шырэйшага. Я яго толькі пачала пазнаваць і...

У мяне сумленне чыстае. Ад крывавай банды арыйскіх норманаў я ўратавала не адзін дзесятак герояў. Кідалася іх ратаваць не таму, што бачыла ў іх цябе. Рабіла гэта проста таму, што знаходзіла ўнутраную неабходнасць, гэта стала маім абавязкам.

Даруй, што ўсё напісала бессістэмна. Няма часу перапісваць... Але, хоць не магу дыхаць на поўныя грудзі ад страху, думкі ў мяне светлыя і вострыя, як ніколі. Кажуць у людзей перад смерцю заўсёды так...

Бывай. Апошні раз цалую. Твая Крыся».

4.

Схаваўшы пісьмо і фатаграфіі, я вярнуўся да генералавага дома. Крыся для мяне аджыла зноў.

Прыйшоў на сваю былую кватэру. Я тут быў раніцай, і гаспадыня мяне ўжо ведала.

— Я спяшаюся на работу, прабачце! — сказала жанчына.

— Калі можна, толькі пасяджу на ганку, а то да вечара няма дзе дзецца...

— Ідзіце сюды ў цянёк пад ясень. І дзеці тут на панадворку пабудуць пры вас. Міша! — пазвала яна чатырохгадовага хлопчыка, — я табе пакладу ў кішэню ключ, а каб не згубіў, прышпілю аграфкай. Прыйдзе тата, аддасі!

Я ўладкаваўся на ганку, зірнуў на генеральскі панадворак, пачаў успамінаць. Успамінаў да той пары, пакуль мая душа стала як той лісток паперы, з якога гумкай сцерлі, што было напісана і засталіся толькі сляды літар. Я ўжо нічога не мог прыпомніць, адвёў вочы ў бок.

Каля ганку стаяў Міша і звычаем, як гэта робяць усе дзеці, паціраў плячом вуха. За плотам на



бервяне сядзеў другі такі малы, трымаў на каленях талерку і мераў канцом лыжкі, колькі засталося супу.

Па тратуары ішла пара. Адно пачуццё спляло іхнія рукі, зарадзіла шчаслівыя іскры ў вачах, кіравала іхнімі крокамі. За імі ішла сур'ёзная дзяўчына .Яна моцна біла туфлямі па цэменце, і яе пухкія шчочкі смешна ўздрыгвалі ў такт. Яшчэ далей, каля наваленай цэглы і свежа апілаванага дрэва, малады рабочы вёз тачку.

У рагатым капелюшы, быццам у распілаванай марской міне, дама несла поўную сетку пакупак. —З сеткі віднеліся яйкі, ружовая лапка гусака, пачка масла і яшчэ нешта. Дамачка сустрэлася з маімі вачыма. Шукаючы спачування, усміхнулася, прамовіла:

— Ух, упарылася!

І паставіла сетку ля тратуара, замахала рукамі. Далей ішла мілавідная дзяўчына і несла белы батон. Азіраючыся сюды - туды, раз — і ўтапіла зубы ў батон. Я адчуў у роце хруст скарынкі і смак свежай духмянай булкі. Усміхнуўшыся, я зноў глянуў на дом генерала. На дах з пачарнелай пацынкаванай бляхі ўлезлі хлапец з дзяўчынай прымацоўваць антэну. Спачатку ўсё ў іх ішлі так, як трэба. Але вось узяліся ўдваіх за адзін канец антэны, іх рукі спляліся і... раман на даху!

А вакол стаяла цудоўная пагода. Майскае сонца золатам заліло вуліцу, дамы, дахі. Было цёпла, але не горача. Шчабяталі шпакі, крычалі галкі. Мне было і сумна і радасна. Сумна, бо загінула Крыся, маладая, .прыгожая, любімая. А радасна, бо яна мне чамусьці адчувалася вось тут побач у гэтым кіпучым цудоўным і вечным жыцці!

**КАНЕЦ**

